Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 740.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-20-83

# НАВІНЫ



Пятніца, 31 ліпеня 1998 г. | № 78 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## «Змова сарака», або Марнае падарожжа ў Белавежскую пушчу

### У Віскулях рыхтаваўся расійскі дзяржаўны пераварот?

У мінулую сераду адбылася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з расійскімі губернатарамі. Але ў госці да беларускага прэзідэнта прыляцелі далёка не ўсе тыя, каго асабіста запрасіў да сабе Аляксандр Лукашэнка.

З сарака запрошаных губернатараў спецрэйсам з Масквы ў Брэст прыляцела толькі трынаццаць кіраўнікоў расійскіх рэгіёнаў — даўніх сяброў Аляксандра Рыгоравіча. Пры гэтым некаторыя губернатары прыслалі замест сябе сваіх намеснікаў. Яшчэ адзін расійскі кіраўнік — губернатар Стаўрапольскага края Аляксандр Чарнагораў — прыляцеў на дзень раней. Астатнія ж (чакалася прыбыццё такіх каларытных фігураў, як губернатар Краснаярскага края Аляксандр Лебедзь, мэр Масквы Юрый Лужкоў, прэзідэнт Інгушэціі Руслан Аўшаў і г.д.) у апошні момант вырашылі застацца дома. Некаторыя расійскія аналітыкі сцвярджаюць, што на канчатковае рашэнне губернатараў «паўплывала ўнутраная кан'юнктура»: што ж, магчыма.

У Брэсце губернатараў сустрэла ўрадавая дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам. Расійскіх гасцей адразу павезлі ў Белавежскую пушчу. Візіт губернатараў у Беларусь адбыўся, калі Барыс Ельцын адпачываў ад дзяржаўных справаў у Карэліі. У той жа час Дзярждума Расіі абмяркоўвала (у чарговы раз) пытанне пра імпічмент расійскаму прэзідэнту і дэнансацыю Белавежскіх пагадненняў, а некаторыя расійскія праварадыкальныя выданні са спасылкай на неназваныя інфармацыйныя агенцтвы паведамлялі пра новую хваробу Ельцына: маўляў, *«барахляць шунты на Барысавым сэрцы»*.

Аляксандр Лукашэнка запрасіў расійскіх губернатараў у Віскулі — сімвалічнае месца як для яго, так і для іншых барацьбітоў за адраджэнне СССР. Якраз у Віскулях амаль сем гадоў таму былі падпісаныя Белавежскія пагадненні, якія канчаткова зафіксавалі распад Савецкага Саюза. Калі ўважаць на схільнасць беларускага прэзідэнта да тэатральных эфектаў, не выключана, што ў Віскулях чакалася падпісанне нейкай новай саюзнай дамовы з Расіяй на ўзроўні рэгіёнаў — без удзелу апошняга «белавежскага зубра» Барыса Ельцына. Асобныя аналітыкі выказваюцца нават больш катэгарычна: у Віскулях нібыта рыхтаваўся расійскі дзяржаўны пераварот, які меўся адхіліць ад улады Барыса Ельцына — напрыклад, «па стане здароўя», як ГКЧП у жніўні 1991 г. «даў адстаўку» Міхаілу Гарбачову. Вельмі паказальна тое, што ў групу губернатараў уваходзіць член ГКЧП Васіль Старадубцаў, сённяшні кіраўнік Тульскай вобласці.

Што гаворыць на карысць такой версіі? Ніколі яшчэ беларускі прэзідэнт не праводзіў такіх маштабных сустрэчаў з кіраўнікамі расійскіх рэгіёнаў. Прызнанні губернатараў, што яны нібыта *«прыехалі падтрымаць Аляксандра Лукашэнку ў ягонай барацьбе супраць Захаду»*, і тым болей *«наведаць Брэсцкую крэпасць і паўдзельнічаць у закрыцці «Славянскага базару»*, выглядаюць проста наіўна. Што прымусіла, напрыклад, кіраўніка адміністрацыі Уладзімірскай вобласці Мікалая Вінаградава літаральна праз тыдзень пасля візіту ў Мінск на чале прамысловай дэлегацыі і сустрэчы з беларускім прэзідэнтам зноў вяртацца ў Беларусь? Няўжо толькі закрыццё «Славянскага базару»?

Хутчэй за ўсё, губернатары, большасць з якіх прадстаўляюць гэтак званы «чырвоны пояс» Расіі, спатрэбіліся беларускаму прэзідэнту дзеля куды больш важнай справы. Тым больш, што сітуацыя ў Расіі надзвычай спрыяльная: шахцёры па-ранейшаму бастуюць, перакрываюць чыгунку, Дума пратэстуе, урад збіраецца скараціць бюджэтныя праграмы, а прэзідэнт адпачывае і можа нават цяжка хварэе. І вось тут на сцэне замест старога і хворага Барыса Мікалаевіча з'яўляецца «калектыўны орган» — так бы мовіць, «Союз Независимых Губерний», створаны кіраўнікамі амаль паловы з 89 суб'ектаў Расійскай Федэрацыі і падтрыманы маладым і энэргічным Аляксандрам Лукашэнкам.

Развіццё падзеяў на гэтым тыдні дае ўскосныя пацверджанні гэтаму сцэнарыю расійскага путчу'98. Барыс Ельцын, хутчэй за ўсё, строга папярэдзіў кіраўнікоў рэгіёнаў, і яны адмовіліся ад візіту ў Беларусь. Таму ў Віскулі, Мінск і Віцебск паехалі толькі самыя адданыя сябры Аляксандра Лукашэнкі — каб сумна паразважаць пра даўгі за энерганосьбіты і нахабства заходніх амбасадараў. Барыс Ельцын здымае з пасады кіраўніка ФСБ Расіі Мікалая Кавалёва — магчыма, за тое, што «прагледзеў змову ў родных пенатах». А ў сераду нечакана для ўсіх расійскі прэзідэнт перарывае свой адпачынак у Шуйскай Чупе і вяртаецца ў Маскву — каб паказаць, хто ў Крамлі сапраўдны гаспадар.

Маскоўскія тэлеканалы ўжо ў сераду папярэджвалі: у расійскім урадзе чакаюцца новыя перастаноўкі — будуць, як заўсёды, шукаць вінаватых.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Лукашэнка ажаніўся

### Сын прэзідэнта распісаўся з дачкой рабочага

**Дзень 25 ліпеня ўвойдзе ў спіс святочных датаў сям'і беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У гэты дзень узяў шлюб старэйшы сын кіраўніка дзяржавы, 22-гадовы Віктар, які толькі што скончыў факультэт міжнародных зносінаў Белдзяржуніверсітэта.**

Без пяці хвілінаў дыпламат узяў у жонкі будучую настаўніцу гісторыі і англійскай мовы Лілію Сомаву. Ёй толькі 18 гадоў, але яна ўжо скончыла 2-гі курс Педагагічнага універсітэта імя М.Танка. *«Дык яна ж ранняя, з шасці гадоў пайшла ў школу»*, — патлумачыла маці Віктара Галіна Радзівонаўна Лукашэнка нашай газеце.

Веданне такіх падрабязнасцяў біяграфіі нявесткі тлумачыцца проста. Лілія Сомава (цяпер ужо Лукашэнка) нарадзілася і вырасла ў тых жа Рыжкавічах пад Шкловам, дзе жыве жонка беларускага прэзідэнта. *«Нашыя дамы на адной вуліцы, а Лілю я ведаю яшчэ малым дзіцем, яна да мяне ў садок хадзіла. Добрая была дзяўчынка»*, — узгадвае Галіна Радзівонаўна. Цяпер яна задаволеная нявесткай (сама ж выхоўвала!). *«А што будзе далей, паглядзім. Варажыць непарад не трэба»*, — па-жыцейску мудра кажа жонка прэзідэнта. Па звестках рэдакцыі, сям'я Сомавых у Рыжкавічах лічыцца даволі заможнай і дружнай. Бацька Лілі працуе рабочым у камбінаце будаўнічых матэрыялаў; маці — фельчар у мясцовай хуткай дапамозе.

Распісваліся маладыя ў Фрунзенскім загсе сталіцы, а вяселле прайшло пад Заслаўем, у прэзідэнцкай рэзідэнцыі. Прэзідэнт на вяселлі прысутнічаў і сказаў шмат словаў віншавання маладым. Пасля прамовы ён зрабіў падарунак — агульны, ад бацькі і ад маці. Што дакладна падарылі старэйшыя Лукашэнкі Віктару і Лілі — невядома: Галіна Радзівонаўна палічыла, што такую падрабязнасць паведамляць не трэба. Сказала толькі: *«Чаго ў іх не было, тое мы ім і купілі»*.

Апроч падарункаў, падносілі маладым і грошы. Колькі ўсяго сабралі, яна «не падлічвала». *«Усё было, як звычайна, па нашых народных традыцыях»*, — сказала Галіна Лукашэнка. І патлумачыла, што гэта азначае: за сталом сядзела да ста чалавек, чыноўнікаў не было, толькі сваякі і сябры маладых. З боку Лукашэнкаў прыехалі сваякі з Рыжкавічаў, Маладзечна і Магілёва. Сомавых за сталом таксама хапала. *«Гасцей у абодвух бакоў было прыкладна пароўну»*, — падвяла рысу Галіна Радзівонаўна.

Цяпер маладыя адпачываюць у Рыжкавічах. Ходзяць па знаёмых, у лес, на луг. У іх мядовы месяц. Ці паедуць куды ў шлюбнае падарожжа, Галіна Лукашэнка дакладна не ведае. Але магчыма, што паедуць. *«Тыдні на два варта было б куды паехаць на мора, а чаму не? Толькі пакуль мы гэта яшчэ не вырашылі»*, — сказала яна. У адказ на нашыя віншаванні маладым і пажаданні шчаслівага сумеснага жыцця яна прасіла перадаць падзяку ўсім, хто далучаецца да віншаванняў на адрас яе сына і нявесткі.

Дарэчы, Віктар Лукашэнка ўжо атрымаў прызначэнне ў міністэрства замежных справаў Беларусі і, па звестках, восенню адправіцца ў Швейцарыю, дзе яму ў беларускай амбасадзе зарэзерваванае месца гандлёвага саветніка. Пакуль малады дыпламат будзе працаваць у сэрцы Еўропы, абранніца ягонага сэрца працягне вучобу ў Педагагічным універсітэце. Ва ўсякім разе, аб іншых планах пары маладых Лукашэнкаў нічога невядома.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Бульба хварэе

### Сёлета ў Беларусі зноў можа здарыцца неўраджай бульбы

**Як паведаміў дырэктар Інстытута бульбаводства Сяргей Банадысеў, гэтым летам «дынаміка росту бульбы» амаль такая ж, як і ў мінулым годзе.**

Гэта значыць, што леташняя сітуацыя з дэфіцытам «другога хлеба» беларусаў можа паўтарыцца.

Нагадаем, што летась бульба моцна не ўрадзіла, выкапалі яе катастрафічна мала. Па словах С.Банадысева, гэта быў самы вялікі неўраджай за апошнія сорак гадоў. З кожнага гектара сабралі на 50-60 цэнтнераў менш, чым планавалася. У выніку ў гандлі здараліся перабоі з бульбай, а каштавала яна ў параўнанні з іншымі гадамі ў 2—3 разы даражэй, чым звычайна.

Спецыялісты-бульбаводы тлумачаць леташні неўраджай масавым захворваннем на фітафтароз. Маўляў, хваробу адразу не заўважылі, і таму шмат бульбы згубілася. Ці не атрымаецца тое самае сёлета?

Як нам паведамілі ў міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, калгасы і саўгасы добра падрыхтаваліся да барацьбы з фітафторай. З дзяржаўнага бюджэту было спецыяльна выдзелена 50 мільярдаў рублёў на набыццё неабходных хімікатаў. Таму ў міністэрстве спадзяюцца, што ўраджай будзе някепскі.



*На раннія сарты бульбы арыентуюцца не толькі прыватныя гаспадары, але і лепшыя калгасы. На здымку — поле калгаса «Шыпяны» Смалявіцкага раёна. Старшакласнікі маюць магчымасць зарабіць, а па словах старшыні калгаса Фёдара Прывалава, продаж ранняй бульбы дае гаспадарцы да 60 млн.рублёў у дзень. На жніво — хопіць.*

Але ж бульбу вырошчваюць не толькі ў калгасах і саўгасах. Па звестках таго ж міністэрства сельскай гаспадаркі, дзяржаўныя гаспадаркі засадзілі бульбай толькі 100 тыс. гектараў, а прыватныя — 600 тысяч гектараў. У мінсельгасхарчы лічаць, што калі хто і не справіцца з хваробай бульбы, дык гэта прыватныя гаспадары. І тады нас зноў чакае неўраджай.

Аднак прыватнікі, якія гандлююць на Камароўскім рынку, кажуць, што ўжо цяпер сабралі дастаткова бульбы, хопіць і на зіму. Праўда, гаворка ідзе толькі пра раннія гатункі. *«А я ўжо даўно не саджу позняй бульбы»*, — кажа Ганна, яна прывезла свой тавар на Камароўку з-пад Слуцка. — *Ранняя паспее вырасці, пакуль хвароба яшчэ не з'ела картафлянку»*.

Па словах дырэктара інстытута бульбаводства, летась у канцы ліпеня бульба ўжо не расла — зусім не было бацвіння. Сёлета — яшчэ працягвае расці. Як бы там ні было, але, як сказаў Сяргей Банадысеў, *«рабіць прагнозы — самая няўдзячная справа»*. Будзем спадзявацца на лепшае.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Бензіну не хапае

**На аўтазапраўках аб'яднання «Магілёўаблнафтапрадукт» пачалі прадаваць толькі па 20 літраў бензіну «ў рукі».**

Як тлумачыць адміністрацыя, абмежаванні ўведзеныя, каб не дапусціць вывазу паліва за межы вобласці. Напрыклад, па звестках аб'яднання, толькі жыхары Шклоўскага раёна вывозяць па некалькі сотняў літраў у дзень у Расію.

Але ўвядзенне 20-літровай нормы не мае рэальнага сэнсу. Даходзіць да смешнага. На аўтазапраўках (калі бензін увогуле ёсць) прадаюць столькі, колькі патрабуе пакупнік, але па частках — па 20 літраў.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Негры любяць БНФ

### *Але гуляюць за лібералаў*

27 ліпеня ў Гомелі з нагоды Дня незалежнасці адбыўся традыцыйны футбольны матч паміж камандамі БНФ і АГП. Перамог Фронт.

Нягледзячы на шматмесячныя трэніроўкі і ўключэнне ў каманду чарнаскурага легіянера з Буркіна-Фасо, каманда АГП з лікам 2:4 саступіла перспектыўнай і вельмі маладой камандзе БНФ. Героем матча стаў 17-гадовы франтавец Сяргей Крыж. Цікава, што двое суайчыннікаў чорнаскурага валанцёра, які гуляў за аб'яднаных дэмакратаў, апантана «падтрымлівалі» каманду БНФ, размахваючы пры гэтым партыйнымі сцягамі Фронту.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Галоўных грамадзянаў аштрафавалі

**Па 12 мільёнаў 500 тысяч рублёў штрафу атрымалі лідэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч і Аляксандр Дабравольскі.**

Іх пакаралі за «арганізацыю несанкцыяванага шэсця» ў падтрымку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія знаходзяцца за кратамі.

23 чэрвеня, як раз калі ў лукашэнкаўскім парламенце праходзілі слуханні па правах чалавека ў Беларусі, Багданкевіч і Дабравольскі прайшлі па праспекце Скарыны з плакатамі. Разам з імі за свабоду дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Валерыя Кудзінава «несанкцыяваным чынам» выказаліся таксама Анатоль Лябедзька і Павел Знавец, але іх у суд пакуль не выклікалі. Супраць Багданкевіча і Дабравольскага сведчылі на працэсе міліцыянты. Суддзя Жанна Лявіцкая палічыла іхнія паказанні дастатковымі для асуджэння апазіцыянераў. Станіслаў Багданкевіч у судзе заявіў, што не парушаў закон, бо права на шэсце яму гарантуе канстытуцыя.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

## Дыскатэка каля Ільіча

**У Зэльве адбыўся злёт салдацкіх маці. Са сталіцы спецыяльна прыслалі Акадэмічны ваенны ансамбль песні і танца.**

Асабліва публіцы чамусьці спадабаліся песні пра воінаў-інтэрнацыяналістаў часоў афганскай «кампаніі». У гонар удзельнікаў злёту быў дадзены салют і адбылася дыскатэка на плошчы каля статуі Леніна. У мястэчку ёсць яшчэ пара бюстаў Ільіча — каля сельгастэхнікі і ваенкамата. Там не танцавалі.

Андрэй ДУРЭЙКА

## Апельсіны да Дня незалежнасці

На мінскім стадыёне «Дынама» святкаваць Дзень незалежнасці пачалі загадзя. Актывісты Хартыі'97 на чале з сябрам АГП Галінай Юрынай правялі на рынку «Дынама» арыгінальную акцыю: у якасці віншавання да Дня незалежнасці прадпрымальнікам на рынку раздавалі апельсіны з прыклеенымі бела-чырвона-белымі сцяжкамі.

*«Мы ўсе любім сонечныя апельсіны, але не хочам жыць у «бананавай рэспубліцы» з дыктатарскім рэжымам, у якую спрабуе ператварыць Беларусь сённяшняя ўлада»,* — заяўлялі ўдзельнікі акцыі. Разам з апельсінамі яны раздавалі ўлёткі з запрашэннем прыйсці на мітынг 27 ліпеня, а таксама бюлетэнь прэс-цэнтра Хартыі.

Удзельнікаў акцыі віталі вельмі цёпла. Нават тыя, каму не дасталося апельсінаў, а толькі ўлёткі, якіх было раздадзена некалькі тысяч. А наклейкі з адбіткам нацыянальнага сцяга многія адразу ж прыклейвалі да гандлёвых палатак ці проста на адзежу. Многія ставілі свой подпіс пад Хартыяй'97 і запрашалі прыходзіць яшчэ.

У бліжэйшы час падобныя акцыі плануецца правесці і на іншых рынках.

Іван БАБІЧАЎ

## Суд прызнаў Саманкова хабарнікам

**Шэсць гадоў турмы атрымаў былы кіраўнік Першага інвестыцыйнага фонду Беларусі Аляксандр Саманкоў — з фармулёўкай «за хабарніцтва».**

Мінскі гарадскі суддзя Аляксандр Васілевіч з калегамі вырашылі, што Саманкоў сапраўды збіраўся даць «на лапу» 15 тысяч долараў былому прэзідэнцкаму дарадцу, а цяпер міністру прадпрымальніцтва Аляксандру Сазонаву.

Сам Саманкоў так і не прызнаў сябе вінаватым. Ён сцвярджае, што быў вымушаны пазычыць Сазонаву грошы, бо прэзідэнцкі памочнік занадта настойліва прасіў іх у доўг. За больш чым два гады сядзення ў следчым ізалятары Саманкоў не змяніў свае паказанні. На судзе ён узгадваў пра тое, як дапамагаў сваім транспартам будучаму прэзідэнту А.Лукашэнку падчас перадвыбарчай кампаніі. Распавядаў былы бізнесмен і іншыя гісторыі, з якіх атрымоўвалася, што калісьці ён быў дастаткова ўплывовай асобай. Аднак на суд гэта не падзейнічала: пракурор прасіў даць Саманкову сем гадоў узмоцненага рэжыму, суд зменшыў тэрмін толькі на год.

Адвакат Гары Паганяйла, які абараняў Саманкова, лічыць усю справу «правакацыяй». Паганяйла называе суд над Аляксандрам Саманковым красамоўным прыкладам парушэння ў Беларусі нормаў закона і правоў чалавека. *«Дэклараваную барацьбу з карупцыяй дэманструюць на людзях, якія ў параўнанні з сапраўднымі карупцыянерамі — пешкі»,* — кажа адвакат.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

## Пісьменнікі выбіраюць паміж сустрэчай і банкетам

**На мінулым тыдні тэрмінова збіралася Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў. Акрамя «рознага», разглядалася і самае важнае пытанне — аб сустрэчы з прэзідэнтам. Лукашэнка плануе спаткацца і пагутарыць з пісьменнікамі 5 жніўня.**

Шмат пісьменнікаў, членаў Рады, прынцыпова не пайшлі на гэтае пасяджэнне.

З прычыны адсутнасці новага старшыні СБП паэта Уладзіміра Някляева, які выехаў на «Славянскі базар» у Віцебск, пасяджэнне давялося весці пісьменніцы Вользе Іпатавай. Час ад часу ёй нешта падказваў, паблісківаючы залатой зоркай героя на грудзях, Іван Шамякін, які сядзеў побач.

Менавіта ён прапанаваў калегам па пяру вылучыць кандыдатуру свайго сябра, рускамоўнага паэта Браніслава Спрынчана на званне Заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Магчыма, за гэтую прапанову і прагаласавалі б, але супраць выступіў пісьменнік Уладзімір Арлоў. Ён сказаў, што *«Браніслаў Спрынчан апошнім часам дэградаваў як паэт»*, а ў якасці пацверджання зачытаў цытату з верша Б.Спрынчана, надрукаванага ў часопісе «Беларуская думка»:

*А у водоемов Беларуси*
*Хищники гнездятся хорошенько.*
*Кто они? —*
*Дознаться не берусь я,*
*Если не подскажет Лукашенко.*

Можна быць упэўненым, што Аляксандр Рыгоравіч ацэніць творчую дзейнасць паэта і знойдзецца іншая арганізацыя, якая вылучыць Браніслава Спрынчана на заслужанага дзеяча культуры. Але сярод пісьменнікаў гэтая прапанова не прайшла.

Пад канец пасяджэння Вольга Іпатава ветліва прапанавала: *«Жадаючым сустрэцца з прэзідэнтам і выказаць свае прапановы прэзідэнту просьба загадзя запісацца»*. Некаторыя запісаваліся.

Але ж самыя галоўныя спрэчкі пачаліся пасля, у неафіцыйнай абстаноўцы. Вядомы малады паэт сцвярджаў, што на сутрэчу з прэзідэнтам трэба ісці, але ж не, які наладзіць Аляксандр Лукашэнка пры ўмове, што пісьменнікі будуць добра сябе паводзіць на сустрэчы, — нельга. Ён казаў, што гэта будзе як «баль падчас чумы». Паэту запярэчыў празаік: *«Я пяць гадоў не еў бутэрброду з ікрой. А што прэзідэнт будзе казаць, я ведаю загадзя»*.

Мо і сапраўды калі прэзідэнт пабачыць схуднелы твар празаіка, то зразумее, у якіх умовах жыве частка творчай інтэлігенцыі.

Мікола КАЧАН

# Стрэлы на дыскатэцы

**Трэнер зборнай Беларусі па хакеі Міхаіл Захараў заяўляе, што пазнаў чалавека, які страляў у яго ў начным клубе «Макс-шоу». Па словах Захарава, стралком быў крымінальнік Аляксандр Логвінаў, у якога проста «паехала крыша». Між тым не страцілі сілу і іншыя версіі гэтага здарэння.**

Нагадаем, што трэнер быў паранены на дыскатэцы «Макс-шоу», якая праходзіць у мінскім кінатэатры «Кастрычнік». Невядомы злачынец двойчы стрэліў у Захарава, пасля чаго быў схоплены ахоўнікамі, але потым адпушчаны. Здзіўленне выклікала не толькі ветлівае абыходжанне з бандытам, але і тое, як яму ўдалося пранесці зброю на дыскатэку, дзе прынятыя надзвычайныя меры аховы. Атрымлівалася, што ён нічога і нікога не баяўся. Кім жа быў гэты супермен?

### Страляў «залётны» крымінальнік

Захараў не адразу назваў прыкметы стралка. Паранены трэнер трапіў у шпіталь, потым доўга адлежваўся пасля аперацыі, да яго не дапускалі журналістаў і ахоўвалі ад любых сюрпрызаў. Затое са следчымі ён кантактаваў актыўна. *«Сапраўды, я ляжа пагадзіўся з першай жа версіяй міліцыянтаў, згодна з якой у мяне страляў нейкі залётны крымінальнік»* — распавядае Міхаіл Захараў. Сваю лагоднасць ён тлумачыць проста. Маўляў, не ведаў, хто мог у яго страляць, таму і пагадзіўся з міліцэйскай версіяй. *«Тады мне было ўсё роўна»*, — кажа Захараў. Праз некалькі тыдняў ён зойме больш пэўную пазіцыю. Але, каб гэта адбылося, павінна была з'явіцца журналісцкая версія.

### Страляў сын прэзідэнта

Сёння ўжо ніхто не абвяргае, што ў тую ноч абодва сыны прэзідэнта Лукашэнкі былі на дыскатэцы ў «Макс-шоу». Міхаіл Захараў іх таксама бачыў. *«Калі ў мяне стрэлілі, на дыскатэцы сыноў Лукашэнкі ўжо не было»*, — упэўнена кажа зараз трэнер. Раней ён на гэтую тэму ўвогуле маўчаў. Але ў незалежнай прэсе з'явіліся публікацыі, з якіх вынікала, што страляў у Захарава сын прэзідэнта — Віктар Лукашэнка. Пры ўсёй сваёй нацягнутасці і адсутнасці прамых доказаў, гэтая версія давала хоць нейкае тлумачэнне фактам, якія раней не стыкаваліся.

### Страляў псіх

Дзіўна, але толькі пасля з'яўлення ў незалежным друку версіі накошт прэзідэнцкага сына, пацярпелы Міхаіл Захараў пайшоў на кантакт з журналістамі. У пачатку ліпеня Захараў сам наведаў рэдакцыю газеты «Звязда», прыкладна ў той жа час ён даў інтэрв'ю «Прэсс-болу». Галоўнай навіной у гэтых публікацыях было тое, што Захараў ужо з упэўненасцю казаў пра асобу злачынца. Аказваецца, страляў у яго нейкі крымінальны аўтарытэт. Да расследавання справы падключыліся спецслужбы, якія і выйшлі на след чалавека, чыё фота пазнаў Захараў. *«Калі б вы не падымалі шуміху вакол гэтай гісторыі, яго б ужо даўно затрымалі»*, — абураўся на адрас журналістаў Міхаіл Захараў. Маўляў, прэса злачынцу спалохала і ён «залёг на дно». *«Але, ён з'явіцца, нікуды не дзенецца»*, — упэўнена сказаў трэнер падчас нашай размовы. Назваў ён і прозвішча стралка: Аляксандр Логвінаў.

### Схаваўся ці схавалі?

Логвінава цяпер шукае ўся беларуская міліцыя. Ягонае фота паказвае тэлебачанне і называе яго небяспечным злачынцам. 36-гадовы жыхар Мінска, двойчы судзімы Логвінаў з'яўляецца нібыта адным з крымінальных аўтарытэтаў, пад чыім кантролем была частка Мінска. Ва ўсякім разе славутую дыскатэку «Макс-шоу», якая за дзень прыносіць (па словах Захарава) 8 тысяч долараў прыбытку, ён кантраляваў дакладна. Менавіта таму, гаворыць трэнер, Логвінаў гэтак беспрашкодна і праходзіў са зброяй праз любыя кардоны на ўваходзе ў клуб.




*Міхаіл Захараў — хакейны трэнер Аляксандра Лукашэнкі.*

Але далейшая інфармацыя, якой зараз ахвотна дзеліцца з прэсай Міхаіл Захараў, у нечым нагадвае «дзіцячы лепет». Чаму круты мафіёзі ўчыніў беспадстаўную страляніну ў клубе, пра аўтарытэт якога павінен клапаціцца як ніхто? Вось як на гэтае пытанне адказвае Захараў: *«Мне сказалі ў міліцыі, што гэта ў яго ўжо не першы выпадак, калі ён беспрычынна паліць па людзях»*. Карацей кажучы, у Логвінава даўно «паехала крыша», а ён (Захараў) проста аказаўся выпадковай ахвярай псіхічна хворага крымінальніка. *«Рана ці позна, але такі чалавек абавязкова трапіць у рукі міліцыі, бо ён сябе не кантралюе»*, — зноў паўтараў мне Захараў, спасылаючыся на меркаванні следчых. Падобна на тое, што гэтыя словы ён добра запомніў.

...Прайшло ўжо два тыдні, як прозвішча Логвінава трапіла ў аб'явы аб усебеларускім вышуку, але знайсці злачынцу пакуль не ўдаецца. Канешне, гэта будзе зрабіць нялёгка, калі аўтарытэт сапраўды «лёг на дно». Хавацца гэтыя людзі ўмеюць. Толькі ёсць версія, нібыта ён не сам лёг, а яму дапамаглі гэта зрабіць — пасля чаго і звалілі на яго ўсё, што адбылося ноччу 31 траўня ў «Макс-шоу». У такім выпадку злачынцу можна шукаць хоць сто гадоў. Галоўнае, каб пра іншыя версіі стрэлаў на дыскатэцы хутчэй забыліся.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## Вылечым Дняпро разам!

Украінская экалагічная асацыяцыя «Зелений світ» разам з Інстытутам экалогіі Нацыянальнага экалагічнага Цэнтра Украіны хочуць наладзіць супрацоўніцтва з беларускімі грамадскімі экалагічнымі арганізацыямі ў справе аховы рэк Дняпроўскага басейна. Для абмеркавання тэарэтычных і практычных пытанняў супрацоўніцтва мяркуецца правесці супольны семінар у жніўні 1998 г. у горадзе Астрог Ровенскай вобласці. (Дарэчы, горад знаходзіцца за 7 кіламетраў ад Хмяльніцкай АЭС. Яна пакуль што не нарабіла бяды, але ці трэба дабудоўваць там 2-гі рэактар — пытанне для дыскусіі).

Дзякуючы падтрымцы фонду *Eurasia* і «Відродження» ёсць магчымасць выплаціць камандзіровачныя ўдзельнікам семінара.

З запытамі і заяўкамі звяртацца да 10 жніўня:

252001, Киів-1, а/с 449; E-mail: fedoryn@grworld.free-net.kiev.ua; тэлефон (044) 446-34-35, факс (044) 546-00-73.

## Помнікаў мала

У горадзе Лідзе не так ужо і шмат помнікаў старадаўняй архітэктуры. У кнігу «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць», акрамя вядомых замкавых руінаў, занесена дзевяць будынкаў. Гэта два дамы на вул.Камсамольскай, некалькі дамоў на вул.Савецкай, Іосіфаўскі касцёл піяраў (дзе цяпер праваслаўная царква, а яшчэ зусім нядаўна быў размешчаны планетарый) і Крыжаўздвіжанскі касцёл (вул.Савецкая, 2).

Іосіфаўскі касцёл піяраў быў пабудаваны ў 1797—1824 гг., у 1842 г. будынак гарэў, а ў 1863 г. быў перароблены ў праваслаўную царкву. Крыжаздвіжанскі касцёл быў пабудаваны ў 1765—70 гг., гэта помнік архітэктуры барока.

Зробім невялікі экскурс у юрыдычныя паперы. Закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» дае выразнае тлумачэнне, як улады і наогул людзі павінны адносіцца да помнікаў гісторыі і культуры. Арт.45: *«Знос, перамяшчэнне і змены нерухомых помнікаў гісторыі і культуры забараняецца. Выключэнне з гэтага правіла можа*



*У гэтым будынку № 3 па вул.Камсамольскай у Лідзе нядаўна адчынілі аптэку.*

*дапускацца толькі ў кожным асобным выпадку з дазволу Савета Міністраў...»* Арт.46: *«Арганізацыя, якая хадайнічае аб зносе, перамяшчэнні ці зменах у помніку гісторыі і культуры, абавязана атрымаць заключэнне па гэтым пытанні ў міністэрстве культуры і Рэспубліканскім таварыстве аховы помнікаў».* Арт.57: *«Нерухомыя помнікі гісторыі і культуры (будынкі, збудаванні), акрамя выкарыстання ў навуковых, культурна-асветніцкіх мэтах, могуць быць выкарыстаны ў гаспадарчых і іншых мэтах, калі гэта не наносіць шкоды захаванню помнікаў і не парушае іх гістарычна-мастацкай каштоўнасці».*

І нарэшце арт.78: *«Да асобаў, якія вінаватыя ў парушэнні правілаў аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры, калі гэтыя дзеянні па свайму характару не цягнуць крымінальнай адказнасці, могуць быць прыменены меры адміністрацыйнага спагнання, папярэджанне альбо штраф».*

Як відаць, помнікі гісторыі і культуры быццам бы павінны быць добра абароненымі. Тым не менш, у Лідзе існуе пагроза гэтым самым помнікам. У доме № 3 па вул.Камсамольскай нядаўна зрабілі аптэку. І зусім нядаўна ў доме № 23 па вул.Савецкай у адной сцяне прабілі новыя дзверы. (З дызайну гэтых дзвярэй відаць, што тут мае быць якая-небудзь крама ці офіс.) Дазвол на змены ў знешнім выглядзе помніка нашай гісторыі дало ведамства галоўнага архітэктара г.Ліды. Няўжо яны не ведалі, што дом нават унесены ў «Збор помнікаў»?

Вось такія справы. Які помнік будзе наступным?

**Лілія САЗАНАВЕЦ,**
*г.Ліда*

## Крыж – найлепшае рашэнне

Я з цікавасцю сачыў за абмеркаваннем у газеце ідэі аб перазахаванні праху Максіма Багдановіча ў Беларусі. Здавалася, што пасля артыкула П.Качатковай у № 40 НАВІНАЎ гэтая тэма была вычарпаная. Але вось жа прафесар Анатоль Грыцкевіч палічыў патрэбным працягнуць дыскусію (у НАВІНАХ № 68). На жаль, прыведзеныя гісторыкам прыклады перазахавання праху вядомых людзей не дужа падыходзяць да нашага выпадку, бо там не было сумненняў наконт прыналежнасці парэшткаў. А калі ж ёсць пэўныя сумненні ў тым, што менавіта ў гэтай магіле пахаваны Багдановіч, дык лепш пакінуць той прах у спакоі. Калі ж нехта, не зважаючы на гэтую акалічнасць, усё ж настойвае на перазахаванні, дык гэта, відаць, ад жадання адзначыцца ў гісторыі любым чынам. Такі падыход, сапраўды, інакш як авантурным не назавеш. Правядзенне грунтоўнай экспертызы, падобнай да той, што праводзілася для ідэнтыфікацыі парэштк аў расійскай царскай сям'і, каштуе некалькі мільёнаў даляраў. Думаю, што такіх грошай не здабудзе нават Анатоль Белы, пры ўсіх яго станоўчых якасцях, апісаных прафесарам Грыцкевічам.

Трэба мець на ўвазе, што перазахаванне — справа не бясшкодная і для выканаўцаў. Напрыклад, польскі паэт Ян Лехань, які непасрэдна займаўся перазахаваннем Юліуша Славацкага ў Польшчы, пад уражаннем гэтай працэдуры нават скончыў жыццё самагубствам.

*P.S. Прачытаўшы артыкул А.Грыцкевіча, захацеў быў пазнаёміцца з творамі члена Саюза пісьменнікаў Анатоля Белага. На жаль, у бібліятэцы такіх не знайшлі. Дарэчы, ці не той гэта Белы, што некалі ва універсітэце выкладаў мне марксісцка-ленінскую філасофію?*

**Віктар ТУМАШ,**
*Мінск*

## Вниманию футбольных фанатов!

Вышел в свет «Справочник-календарь Сморгонь-98». В нём отражена история чемпионатов и кубков Беларуси по футболу, итоги матчей с участием сморгонского футбольного клуба, приводится полный календарь футбольного сезона Беларуси 1998 г., таблицы групповых турниров чемпионата мира.

Объём брошюры — 40 стр., стоимость 25.000 руб. + 5.000 руб. — за пересылку (независимо от количества экземпляров).

Каждый ШЕСТОЙ справочник высылается бесплатно!

Заявки просим направлять по адресу:

*231000, Гродненская обл., г.Сморгонь, а/я 19,*
*Улану Ромуальду Вацлавовичу.*

ДАГЕРРОТИП

# Брюс Уиллис спасает человечество

*О новом фильме американского режиссера Майкла Бэя «Армагеддон»*

**Семен БУКЧИН**

Об Армагеддоне нам прежде всего рассказывает Библия (книги Судей и Царств). Это город у подножия горы Кармель, получивший известность как место кровавых битв и умерщвления царя Иосии. А в Откровении святого Иоанна это уже символ ужасного события, ожидающего мир. Близкого к Апокалипсису.

Афиши, рекламирующие новый фильм американца Майкла Бэя, облепили весь центр Варшавы. Народ валом валит на суперфантастический боевик. Вот и я соблазнился, не пожалел целых 12 злотых, три с половиной доллара. Да и как было устоять, если американский «Армагеддон» обращен не в библейские времена, а в наше самое что ни на есть ближайшее будущее. Сколько уж мы читали в газетах: приближается к Земле комета такая-то, возможно столкновение... Вот и последние публикации в соответствующей прессе что-то такое предрекают.

В фильме Майкла Бэя это «ближайшее будущее» уже наступило. Гигантский астероид нацелен на Землю, а опередившие его основную массу обломки уже разрушили Нью-Йорк и Париж. О том, как это снято, зритель, знающий возможности американской кинотехнологии, может предполагать. Это действительно Армагеддон, Апокалипсис в его жуткой, трагической яви. Американцы умеют снимать техногенную трагедию. Но еще больше, наверное, они умеют любить себя, свой вкус к жизни. Да, астероид — это страшно, это полное разрушение нашей планеты и прекращение рода человеческого. Но разве не Америка, черт побери, достигла умопомрачительных научно-технических высот? А если эти достижения поможноить на американский оптимизм, на американское жизнелюбие и предприимчивость? Тогда рождается безумно-фантастический, но единственно реальный план: нужно снарядить космическую экспедицию на астероид, астронавты должны заложить в его тело мощнейшее ядерное устройство и взорвать до того, как произойдет столкновение с Землей.

Но это было бы скучно, если бы задание выполнили профессиональные астронавты из НАСА. И хотя последнее руководит всей операцией, непосредственно выполняют ее «семеро смелых», обычные американцы, так сказать, рядовые граждане своей страны во главе с талантливым инженером Гарри, которого играет неотразимо-мужественный и такой человечный Брюс Уиллис. Пусть читатель не примет мою иронию как традиционное вышучивание в критике американских стандартов. Они есть, эти стандарты, и в фильме Майкла Бэя. Но бегут мурашки по спине, когда президент США обращается к миру не как руководитель супердержавы, а как представитель всего человечества, когда он говорит о возможном всеобщем конце... Нам ли, расхлебывающим до сих пор «чернобыльскую кашу», не понять этой общей связанности судеб? Этой глобальности мировой судьбы? Пожалуй, эта гуманистическая линия придает «Армагеддону» высокое звучание. Здесь нет художественных открытий, но есть пафос ответственности каждого за судьбу Земли, нашего общего дома. Есть, конечно же, и обязательная для Голливуда юная романтическая любовь, и личные проблемы каждого из героев. Но все это не более чем довесок к главной миссии человека — спасти человечество.

Спасти мир могут только американцы. В этом нам ненавязчиво, но довольно твердо предлагают убедиться и создатели «Армагеддона». Хотя вроде и намечена линия некоего сотрудничества с другими странами и народами, но что можно сделать, если на российской станции «Мир», которая должна подзаправить топливом два летящих к астероиду американских корабля с взрывниками, творится полнейший бардак? А воплощает его единственный обитатель станции, естественно, полупьяный русский в неизменной шапке-ушанке с болтающимися ушами и военной кокардой на лбу (типаж, прочно застрявший в американских фильмах, когда они «выходят» на Россию). Конечно же, гибнет станция «Мир», но спасен, пересажен на американский корабль русский в этой самой шапке.

И уже там, на астероиде, последний подвиг во славу человечества, конечно же, совершает американец. Со взрывного устройства сорвало детонатор. Поэтому не все из оставшихся в живых (трое погибло в борьбе с жестокой стихией уже на астероиде) участники экспедиции могут улететь обратно на Землю, кому-то нужно остаться на астероиде и взорвать его вручную. Гарри не может согласиться с тем, что жребий выпал на юного и такого обаятельного жениха его дочери. В последнюю минуту он спасает юношу и по собственной воле становится заложником судьбы. На экранах телевизоров (крупный план!), установленных в НАСА, Брюс Уиллис прощается с человечеством, завещая ему быть лучше, добрее, мудрее. Горячими от боли глазами вглядывается в последний раз в любимое отцовское лицо молодая очаровательная Грэйси... Гремит взрыв, астероид разлетается на куски, которые минуют Землю. Брюс Уиллис выполнил свое предназначение.

Современный польский зритель далек от сантиментов. У нас на таких кадрах в еще недавние времена шумно сморкались, вытирали набежавшую слезу. Но уже гремит музыка победы. «Обыкновенные герои» возвращаются на Землю, действительно встречаемые всем благодарным человечеством. И вот встает над планетой солнце, и шевелит ветви деревьев легкий ветерок... И хочется жить, потому что жизнь — это счастье. Красивый, плакатный конец. Очередная американская мечта «о подвигах и славе». Да, по-американски разукрашенная и проштампованная. Но каков масштаб! По-своему даже завидно.

Константин СКУРАТОВИЧ



# Осталось учредить министерство правды

**Любопытную цифру сообщил недавно генпрокурор Беларуси Олег Божелко. Оказывается, более четырех миллионов наших сограждан были привлечены в прошлом году к административной ответственности. Похвальный результат! Получается, что более половины взрослого населения страны являются нарушителями закона. А коль нарушил — плати штраф. Представляете, сколько денег содрало с нас государство благодаря своим законам и законникам?**

## Право на достойную жизнь

Но иногда и простого человека, что называется, достают. И тогда в праведном гневе и святой простоте, он обращается в суд, как это сделал инженер-конструктор НИИЦТ «Горизонт» Олег Якъян. Ознакомившись с Конституцией, а затем и Кодексом о труде, он с удивлением узнал, что в нашей стране работники имеют право получать «гарантированную справедливую долю вознаграждения... не ниже уровня, обеспечивающего им и их семьям свободное и достойное существование». Не считая себя исключением, инженер, получающий 40 долларов в месяц, учинил иск администрации института.

Конечно же, райсуд в иске отказал, сославшись на то, что в законе понятия «свободный и достойный» не расшифрованы, а значит никто не знает, что это такое — и требовать «неизвестно чего» — нет такого права. То есть права у трудящихся есть, но все они какие-то неконкретные. А между тем, в отличие от судей, работник не только чувствует, он вполне понимает, что платят ему не просто «недостойно», а унизительно недостойно. Потому что платят мало, можно сказать, что почти ничего и не платят.

А представьте, если бы суд удовлетворил иск инженера — какой бы был чудесный прецедент, позволивший бы судиться с государством половине взрослого населения страны. Поэтому-то и отказали в иске.

## В тюрьму за надпись на заборе

Что и говорить, правосудие по-белорусски отличается от правосудия «по Крутому Уокеру». Американскому полицейскому, дни и ночи напролет занятому защитой женщин и детей от преступных посягательств, и в голову не придет гоняться за подростками, расписывающими заборы надписями, утверждающими величие Америки. У них там это еще от Тома Сойера пошло и стало явлением интернациональным. В Польше, например, все электрички расписаны юными живописцами: переловили всех — и тюрем не хватит.

У нас традиция иная, судя по всему, имеющая революционные корни, поэтому заборы и стены присутственных мест охраняются почти наравне с резиденциями первых лиц и стратегическими объектами. В этом тоже есть что-то забавное: с одной стороны, почти детская простота и непосредственность населения, которое все вокруг имущество рассматривает как государственное, а следовательно ничейное, а с другой стороны, свирепость, с которой наши органы оберегают вещи явно вторичные, вроде чьего-то там высокого достоинства, которое может «уронить» надпись на заборе.

## Инструкция и комитет по правам

Но не только стены и заборы в Беларуси стали объектами стратегическими — государственному контролю подлежит все. В том числе, понятно, и права человека. Специальным указом президент утвердил национальный комитет и план мероприятий по празднованию 50-летия принятия Всеобщей декларации прав человека. Среди 24 комитетчиков — 18 чиновников различного ранга, включая вице-премьера Владимира Заметалина. Осталось учредить разве что еще министерство правды.

Среди «правочеловеческих» мероприятий — конкурсы детского рисунка, семинары, конференции и тому подобное. А финансировать все это предполагается из спецфонда «Права человека», деньги которому дадут физические и юридические лица, которых власть об этом очень любезно попросит.

А чтобы все знали, как надо праздновать, для этого в недрах Совмина подготовлена докладная записка(!), одобренная Заметалиным и ставшая инструкцией. В ней предписывается общий стандарт поведения: министерства и ведомства на своих еженедельных совещаниях обязаны обсуждать состояние прав и обеспечение свобод граждан на вверенных им территориях и в епархиях; при поездке в загранкомандировку чиновник должен изучить инструкцию о том, что следует говорить зарубежной общественности «насчет прав»; заморских гостей у нас отныне будут встречать не только хлебом-солью, но и задушевной беседой о правах человека.

Правда, цивилизованный мир, отказав в выдаче виз нашим главным защитникам прав человека, резко ограничил их просветительские возможности.

Зато в Беларуси порезвиться можно вволю. И штрафануть еще пару миллионов граждан. А еще — записать в конституцию (благо эта книжка в нашей стране переписывается с необычайной легкостью) что-нибудь такое: «право быть оштрафованным на благо государства — почетная обязанность гражданина Республики Беларусь». Звучит, не правда ли?

# Лішні чалавек у Еўропе

*У артыкуле пад такім загалоўкам уплывовы брытанскі часопіс The Economist разглядае праблему ўзаемаадносінаў Заходняй і Усходняй Еўропы. «Лішнім чалавекам» часопіс называе Аляксандра Лукашэнку*

З таго часу, як ідэя хрысціянства паклала пачатак самому паняццю Еўропы, мудрыя людзі зламалі нямала коп'яў у спрэчках, дзе ж знаходзіцца ўсходняя мяжа гэтай самай Еўропы. Варта ўключаць у Еўропу вялізную Расійскую імперыю ці не? Самі рускія ніколі не маглі вырашыць для сябе гэтага пытання, не могуць і сёння. Яшчэ ў часы Пятра I прыжылася тэорыя, што мяжа праходзіць па самой Расіі — па Уральскіх гарах. Такім чынам, Расія прэтэндуе на тое, каб быць пэўнай сілай і ў Еўропе, і ў Азіі.

Крах савецкага рэжыму прымусіў краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія раней былі сатэлітамі Расіі ў камуністычным лагеры, вырашыць (а часам і зрабіць для сябе адкрыццё), да якой часткі свету належаць яны. У больш практычным сэнсе пытанне стаяла канкрэтна — членства ў Еўрапейскім Саюзе. Абсалютная большасць посткамуністычных краінаў зрабілі ясныя, адназначныя заявы: яны бачаць сваю будучыню ў Еўропе. Ёсць толькі адно выключэнне — Беларусь, невялікая краіна з велізарнай праблемай.

Праблема гэтая мае імя — Аляксандр Лукашэнка. Былы дырэктар саўгаса, ён пачаў кіраўніцтва краінай у 1994 г. і з таго часу ні разу не даў знаку, што збіраецца гэтую ўладу выпусціць з сваіх рук. Многія кажуць, што ён злы. Некаторыя скажуць, што ён крыху ненармальны. Але на самой справе ён — хітры цынік з надзвычай шырокім наборам папулісцкага майстэрства.



*Многія кажуць, што ён злы. Некаторыя скажуць, што ён крыху ненармальны. Але на самой справе ён — хітры цынік з надзвычай шырокім наборам папулісцкага майстэрства.*

Лысы, з прылізанымі рэдкімі валасамі, у свае 43 гады ён напускае на сябе саліднасць, як быццам яму на 20 гадоў больш. Ён робіць выдатныя спектаклі па тэлебачанні. Ён валодае дарам пераканання публікі. Гэтыя здольнасці дазволілі яму выйграць свабодныя прэзідэнцкія выбары ў 1994 г. Аднак з таго часу ён перакрэсліў сваю легітымнасць усімі магчымымі спосабамі. Ён перапісаў канстытуцыю, сам прадоўжыў свой прэзідэнцкі тэрмін, разагнаў парламент, прызначыў новы склад канстытуцыйнага суда, надзеў наморднік на сродкі масавай інфармацыі; ён рашуча падаўляе апазіцыйныя рухі, даўшы неабмежаваную ўладу нерэфармаванаму (і нават непераназванаму, як гэта зрабілі ў іншых постсавецкіх краінах) КГБ.

У выніку ён сваімі рукамі зрабіў з сябе ўсенароднаабранага дыктатара і падпісаў для сваёй краіны сумны прыгавор — беднасць і заняпад.

Паколькі канстытуцыйная дэмакратыя — гэта галоўная перадумова ўваходжання ў Еўропу, пабудаваную па стандартах ЕС, Лукашэнка абсалютна правільна зразумеў, што ягоны рэжым мае вельмі мала перспектываў у гэтым напрамку. Таму ён палічыў за лепшае назваць Еўропу — і Захад увогуле — галоўнай прычынай усіх бедаў Беларусі. Палітычныя апаненты — гэта «агенты Захаду». Кожны, хто гаворыць пра правы чалавека, — таксама. Калі Беларусь выйграла ўсяго два бронзавыя медалі на апошніх Алімпійскіх гульнях у Японіі, Лукашэнка абвінаваціў у гэтым «заходнюю дэмакратыю», якая нібыта дзейнічае «праз мафію».

Цяпер Лукашэнка заблытаўся ў дыпламатычным скандале з Захадам. Скандал, трэба сказаць, мае выдатныя алегарычныя паралелі з ягонай палітыкай і стылем кіраўніцтва. У чэрвені ён атрымаў своеасаблівую перамогу над заходнімі амбасадарамі, выселіўшы іх з Драздоў — дыпламатычнага гарадка пад Мінскам. Многіх дыпламатаў іхнія краіны адклікалі «для кансультацыяў». Далей быў абмен некалькімі нотамі пратэсту. Урэшце Захад бразнуў дзвярыма перад носам Лукашэнкі, паведаміўшы, што ні Еўрапейскі Саюз, ні Злучаныя Штаты, ні яшчэ 10 краінаў у Еўропе не хочуць бачыць у сябе ні беларускага прэзідэнта, ні ягоных чыноўнікаў. Няважна, здагадваўся Лукашэнка пра магчымасць такіх мераў ізаляцыі ці не: у кожным разе дома ён смакуе гэты факт і эксплуатуе ідэю, што Захад імкнецца запалохаць бедную, маленькую, але гордую Беларусь.

На шчасце для Лукашэнкі, ягоныя паводзіны «сапраўднага цвёрдага мужчыны» не вельмі раздражняюць Расію. Больш за тое, стараразэмным расіянам хутчэй нават падабаецца ягонае разуменне «парадку». Пырскаючы слінай у злосці на Захад, ён у той жа час гатовы задушыць у радасных абдымках Расію, робячы заявы аб такой любові і прыхільнасці, якой гэтая краіна не пачуе больш нідзе ў свеце. Усё гэта мае эфект: Расія, здаецца, настолькі моцна пранялася ягонымі словамі, што ўзнагародзіла Беларусь сотнямі мільёнаў долараў — гэта даўгі, якіх Мінск не вяртае.

> *Ён выйграў свабодныя прэзідэнцкія выбары ў 1994 г. Аднак з таго часу ён перакрэсліў сваю легітымнасць усімі магчымымі спосабамі.*

Калі прыглядзецца ўважліва, Усходняя Еўропа наўрад ці разродзіцца новымі лукашэнкамі. Лукашэнку выбралі тады, калі выбаршчыкі ў многіх посткамуністычных краінах мелі вельмі слабое ўяўленне пра дэмакратыю. З таго часу электарат паразумнеў, а ліберальныя каштоўнасці атрымалі большае прызнанне.

Аднак ад гэтага не лягчэй. Лукашэнка ўсё роўна застаецца праблемай, прычым нават большай, чым здаецца на першы погляд. Сёння ўжо нікога не пераканаеш, што «бацька» задаволіцца адносна невялікай Беларуссю і не будзе шукаць для сябе больш маштабнай ролі. Сапраўды, ягоная ідэя саюза з Расіяй распрацоўвалася ў першую чаргу дзеля таго, каб даць яму магчымасць выскачыць на расійскую палітычную арэну.

А калі ўжо выскачыць — папулярнасці яму пазычаць не давядзецца. Ён будзе мець у сваёй кішэні галасы выбаршчыкаў-камуністаў. Ягоны козыр — славянскі саюз — забяспечыць яму істотную падтрымку ў абедзвюх краінах. Ён выкарыстае ўсе рэсурсы, якія толькі ёсць у Беларусі, на забеспячэнне сваёй выбарчай кампаніі. Калі ж нават у яго не будзе законнага права непасрэдна прэтэндаваць на прэзідэнцкі пост у Расіі, ён быў бы ідэальным партнёрам практычна для любога расійскага нацыяналіста, які стане змагацца за месца Ельцына.

Перспектыва, што ў Крамлі засядзе нервовы, неўраўнаважаны ненавіснік Захаду, павінна непакоіць Еўропу, асабліва Усходнюю Еўропу. Ці можа нешта падобнае здарыцца?

Проста адмахнуцца ад такой думкі як ад хваравітай фантазіі — гэта значыць не толькі недаацэньваць хітрасць самога Лукашэнкі, але і не прымаць пад увагу непастаянства расійскай палітыкі.

*© The Economist, 25 ліпеня 1998 г.*

*Скарочаны пераклад з англійскай мовы*
**Магдалены НЕПАКАЙ**

# Казка ў Альпах

Заўтра — нацыянальнае свята Швейцарыі. Кожны год 1 жніўня швейцарцы адзначаюць Дзень незалежнасці. Гэта самае старое свята незалежнасці ў свеце, бо бярэ яна пачатак яшчэ ў 1291 годзе, калі тры кантоны — Унтэрвальдэн, Уры і Швіц — заснавалі Швейцарскую канфедэрацыю.

У любым артыкуле пра Швейцарыю не абысціся без словаў кантоны, непасрэдная дэмакратыя, стабільнасць, гадзіннік, шакалад, банкі, нейтралітэт, каровы. Вы, канечне, можаце не верыць, што горы ў Швейцарыі зробленыя з шакаладу і што па іх гоняць пародзістых швейцарскіх кароваў пастухі, паглядаючы на швейцарскі гадзіннік і слухаючы меладычны звон швейцарскіх званочкаў. Гэта сапраўды не зусім так. Але вельмі блізка да праўды.



*Горы, азёры, палацы, караблі: тыповы пейзаж. Турыстам — дзіва, швейцарцам — не.*

## Кантоны

Кантонамі называюцца самастойныя дзяржавы, якія ў сукупнасці і складаюць Швейцарскую канфедэрацыю, дзе жыве 7,5 млн. чалавек, прычым паўтара мільёна — гэта іншаземцы, якія не маюць швейцарскага грамадзянства. Кантонаў у Швейцарыі паступова станавілася ўсё больш і больш. Да пачатку XX стагоддзя іх стала дваццаць два, а сёння — 26 (калі быць больш дакладным, ёсць 24 паўнапраўныя кантоны і два «напаўкантоны», але рэальную розніцу ў статусе мне так і не здолелі растлумачыць — нават у парламенце).

Усе кантоны маюць уласную канстытуцыю, самі распараджаюцца сваім лёсам, і на першы погляд можа падацца, што такая стракатасць у невялікай дзяржаве (а Швейцарыя па велічыні і форме на геаграфічнай карце нагадвае Брэсцкую вобласць) стварае цяжкасці. Швейцарыя мяжуе з Германіяй, Аўстрыяй, Францыяй, Італіяй і Ліхтэнштэйнам, а швейцарская нацыя гавораць на чатырох мовах — нямецкай, французскай, італьянскай і рэтараманскай, прычым усе чатыры маюць статус дзяржаўных. Дарэчы, на рэтараманскай мове не гавораць больш нідзе ў свеце, а па словах саміх швейцарцаў, *«яна падобная на італьянскую, але такая ж драўляная, як нямецкая»*. Супярэчнасці паміж кантонамі ёсць.

Сапраўды, больш прамыслова развітыя нямецкія кантоны не вельмі давяраюць французскім, дзе размяшчаецца большасць культурных цэнтраў і міжнародных арганізацыяў (напрыклад, некаторыя аддзелы ААН маюць штаб-кватэры ў Жэневе, хоць сама Швейцарыя да гэтага часу ў ААН так і не ўступіла). Франкамоўныя швейцарцы схільныя абвінавачваць нямецкамоўных у залішнім прагматызме. Італьянскія і рэтараманскія (а іх разам — толькі 10% насельніцтва) трымаюцца разам, яны заўзятыя каталікі, не любяць і з недаверам адносяцца да ўсякіх пераменаў.

Але ўсе яны паміж сабой жывуць мірна і ў згодзе. Праўда, у сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Швейцарыі была грамадзянская вайна, калі некалькі кантонаў захацелі аддзяліцца. Кажуць, што тая вайна доўжылася 10 дзён і ў ёй загінула 6 чалавек. Магчыма, гэта байка, але самі швейцарцы ёй вераць і ахвотна расказваюць іншаземцам. Адно праўда: гэта была апошняя вайна ў гісторыі Швейцарскай канфедэрацыі.

З 1848 года ў Швейцарыі дзейнічае цяперашняя канстытуцыя. З таго часу ў яе было ўнесена больш за сто зменаў і дапаўненняў. Але сам факт зменаў з'яўляецца прадметам асаблівага гонару швейцарцаў, бо гэта называецца —

## Непасрэдная дэмакратыя

У Швейцарыі штогод праводзіцца ў сярэднім 5—6 нацыянальных рэферэндумаў, а колькі мясцовых (у асобных кантонах) — ніхто не возьмецца падлічыць. У іх так прынята: усе важныя пытанні выносіць на галасаванне. Зрэшты, канстытуцыя патрабуе, каб праблемы членства Швейцарыі ў міжнародных арганізацыях або зменаў у самой канстытуцыі вырашаліся толькі ўсенародна.

Што і робіцца. Каб арганізаваць усенародны рэферэндум наконт зменаў у канстытуцыю, неабходна сабраць 100 тысяч подпісаў. Каб аспрэчыць прыняты парламентам закон або пастанову ўрада — дастаткова 50 тысяч, якія трэба сабраць на працягу 100 дзён пасля прыняцця закона. Як правіла, усе такія акцыі заканчваюцца паспяхова — рэферэндум (іншая назва — публічная ініцыятыва) арганізоўваецца. А абмежавання ўдзелу выбаршчыкаў няма. Лічыцца, што калі ў чалавека ёсць меркаванне — ён прыйдзе і прагаласуе. Калі ж нехта не прыходзіць і не бярэ бюлетэнь — значыць, яму няма чаго сказаць, таму ягоную думку няма сэнсу ўлічваць. Але звычайна ў рэферэндумах бярэ ўдзел 30-50% выбаршчыкаў. Як паведаміў мне генеральны сакратар Народнай партыі Швейцарыі (адной з чатырох, што ўтвараюць урадавую кааліцыю), самы нізкі паказчык быў 22%, аднак рашэнне тады прынялі станоўчае.

Што ж да мясцовых справаў, дык даволі часта ўзнікае ідэя «параіцца», ці варта прасякаць у Альпах новы тунель або адчыняць музычную школу ў невялікай вёсцы. Яшчэ ні разу, запэўнілі мяне прадстаўнікі ўсіх палітычных партыяў, з якімі я сустракаўся, не было нараканняў на тое, што непасрэдная дэмакратыя дорага каштуе. Усе фінансавыя выдаткі бярэ на сябе арганізатар рэферэндуму — партыя, грамадская арганізацыя або ініцыятыўная група.

А ў 1972 годзе мужчыны арганізавалі рэферэндум — і прагаласавалі станоўча — за тое, каб даць жанчынам права голасу.

## Стабільнасць

Пра тое, што ў Швейцарыі больш як сто гадоў не было вайны, ужо гаварылася. Мірна і ў палітыцы. У кіраўнічую кааліцыю ўвесь час уваходзяць чатыры партыі — Сацыял-дэмакратычная, Народная, Радыкальна-дэмакратычная і Хрысціянска-дэмакратычная. Яны фарміруюць урад з сямі міністраў, а яны па чарзе на працягу аднаго года выконваюць абавязкі прэзідэнта. Сённяшні прэзідэнт — Флавіё Коці — прадстаўляе італьянскую частку Швейцарыі.

Парламент у Швейцарыі двухпалатны і — напаўпрафесійны. Гэта значыць, што ўсе парламентарыі маюць яшчэ нейкую работу, на якой і зарабляюць грошы. Дарэчы, сярэдняя месячная зарплата ў Швейцарыі — прыкладна 5,5 тыс. швейцарскіх франкаў (3.800 долараў). Але працуюць швейцарцы шмат — у сярэднім 42 гадзіны ў тыдзень, што з'яўляецца самым высокім паказчыкам у Еўропе. Адзіная нязручнасць для турыстаў — крамы адчыненыя да 18:30, і толькі адзін раз у тыдзень да 21:00 (такое рашэнне, дарэчы, было прынятае на адным з рэферэндумаў).

## Каровы і малако

Асабліва шмат працуюць швейцарскія сяляне. Працоўны дзень складае 12 гадзінаў, прычым улетку бывае толькі адзін выхадны — нядзеля.

Калісьці зайздрослівыя французы гаварылі, што аб перасячэнні мяжы са Швейцарыяй адразу здагадваешся па тым, што каровы становяцца прыгажэйшымі за жанчын. Карова са сваім гучным званочкам доўга была адным з сімвалаў нацыі, цяпер іх стала нашмат больш. Але ўвогуле давер да прадуктаў *swiss made* — бездакорны. Супрацоўнікі беларускай амбасады ў Берне пераконвалі нас, журналістаў з Мінска, калі мы былі там на вельмі цёплым, родным прыёме, што тавары швейцарскай вытворчасці можна купляць з заплюшчанымі вачыма — якасць найвышэйшая.

## Шакалад

Швейцарыя — краіна шакаладу. З Швейцарыі можна легальна вывозіць золата, але падарожнікі звычайна задавальняюцца шакаладнымі пліткамі ў выглядзе залатых зліткаў. Свой шакаладны досвед швейцарцы і сапраўды цэняць на вагу золата (кампанія *Nestle* пачала выпускаць цвёрды шакалад першай у свеце).

Расказваюць, што калі адзін швейцарскі прадпрымальнік спрабаваў купіць у адной з посткамуністычных краінаў шакаладную фабрыку, ён доўга вывучаў усе стадыі вытворчасці і быў у цэлым задаволены працэсам. У цэху, дзе шакалад ужо разлівалі ў формы, дырэктар спытаў: «Хочаце паспрабаваць?» — і, апусціўшы палец у кацёл, аблізаў яго. Швейцарац завод не купіў.

А самы цікавы швейцарскі шакалад — гэта *Toblerone*. Ён трохвугольнай формы, цвёрды, і ў ім шмат арэхаў. На такі шакалад трэба мець добрыя зубы, тым больш што швейцарская медыцына — самая дарагая ў свеце.



*Усе каровы ў Швейцарыі — дакладна такія, як у тэлевізійных рэкламах швейцарскіх прадуктаў.*

## Сыр

Калісьці, помніцца, у нашых крамах прадаваўся сыр, які называўся «швейцарскі» (а яшчэ былі «галандскі» і «расійскі»). Вядома ж, такога сыру ў Швейцарыі няма, а ёсць некалькі соцень самых разнастайных гатункаў знакамітых швейцарскіх сыроў. Каштуюць яны дорага — нягледзячы на тое, што ўрад дае велізарныя датацыі сельскай гаспадарцы і харчовай прамысловасці. Праўда, цяпер, пад ціскам Сусветнай гандлёвай арганізацыі і іншых міжнародных структураў, такія датацыі паступова змяншаюцца. Значыць, сыр падаражэе.

Самы знакаміты швейцарскі сыр — груер. А, па словах саміх швейцарцаў, адзіная ўласна нацыянальная страва — гэта *fondu*, расплаўлены ў белым віне сыр. Яго звычайна падаюць у керамічным гаршку, куды апускаюць кавалачкі хлеба на доўгім відэльцы. Запіваюць страву тым самым віном, у якім варыўся сыр. Чым больш едакоў — тым лепш. Працэс паядання нагадвае азартную гульню: у каго зваліцца ў гаршчок кавалак хлеба — той і заказвае новую бутэльку віна.

Зраніцы навічкі амаль заўсёды пакутуюць ад галаўнога болю. Але гэта не самае страшнае.

## Банкі

Выраз «надзейна, як у швейцарскім банку» паціху траціць сэнс. Як ні дзіўна, прапарцыянальна ўзмацненню ўплыву банкаў. Доўгі час яны былі дзяржавай у дзяржаве. Тут можна было захоўваць свае грошы, не баючыся, што падатковыя службы атрымаюць пра цябе звесткі. Менавіта па гэтай прычыне і цяпер многія краіны забараняюць сваім грамадзянам мець уклады ў швейцарскіх банках (напрыклад, як мне казалі ў Цюрыху, Францыя).

Але цяпер банкі павінны дзяліцца з паліцыяй звесткамі аб рахунках асобаў, якія трапілі пад падазрэнне праваахоўных органаў. Зрэшты, яшчэ існуюць і прыватныя банкі з так званымі кодавымі рахункамі, дзе ніхто нічога не ведае. Нават банк.

## Курорты

Курорты падзяляюцца на агульнатурыстычныя, лячэбныя і горналыжныя. Агульнатурыстычныя маюць выдатную інфраструктуру — фунікулёры, канатныя дарогі, верталётныя экскурсіі, рэстараны пад аблокамі і іншыя радасці жыцця. Ні разу ў гісторыі ніводнай катастрофы на швейцарскіх горных дарогах не здарылася. Пра што не без гонару паведамляюць супрацоўнікі фунікулёра на гары Пілатус пад Люцэрнай; да таго ж гэта самы круты (у сэнсе вугла пад'ёму) фунікулёр Еўропы. На вышыню амаль 3 тысячы метраў ён завёз мяне за паўгадзіны.

Швейцарскія лячэбныя курорты заўсёды лічыліся надзвычай карыснымі для здароўя (адным словам, на лячэбных курортах лечацца). Горналыжныя базы разлічаныя на моцных духам. На вуліцах швейцарскіх гарадоў вы часта сустрэнеце ганарлівых лыжнікаў або аматараў дэльта- і парапланерызму з цудоўнай — ад гіпсавага карсета — паставай. Паламаныя рукі і ногі наогул не ў лік. Такім чынам, горналыжныя курорты даюць лячэбным пастаянную працу.

## Нейтралітэт

У 1815 годзе Венскі кангрэс прызнаў Швейцарыю «вечна нейтральнай краінай». З тых часоў яна не вяла знешніх войнаў і шмат ад гэтага выйграла.

Нейтральнай Швейцарыя была і падчас апошняй сусветнай вайны. Акружаная нацысцкай Германіяй, фашысцкай Італіяй і акупаванай немцамі Аўстрыяй і Францыяй, Швейцарыя была вымушаная ісці на некаторыя кампрамісы — прадавала зброю немцам і іх саюзнікам, прапускала праз сябе нямецкія эшалоны. Да гэтай пары яе папракаюць за тое, што фінансавая сіла краіны ўзрасла падчас вайны за кошт размяшчэння сродкаў Трэцяга Рэйха і грошай забітых фашыстамі габрэяў, якія так ніколі і не запатрабавалі іх назад. Толькі цяпер, пасля нядаўняга абнародавання гэтых рахункаў, магчыма, грошы запатрабуюць нашчадкі загінуўшых.

Швейцарыя па-ранейшаму нейтральная, нядаўна шумна — шляхам рэферэндуму — адмовілася ўвайсці ў Еўрапейскі Саюз. Хоць многія швейцарцы падтрымліваюць ідэю далучэння да аб'яднанай Еўропы. Мяне запрашала на сваё паседжанне арганізацыя *Yes to Europe*: яны збіраюцца ў падвале ў цэнтры Берна. п'юць мінеральную ваду, ядуць салёныя гарэшкі і пад старшынствам пастрыжанай налыса цёткі абмяркоўваюць, як добра будзе Швейцарыі ў Еўрапейскім Саюзе. Дэталі дыскусіі мне засталіся невядомымі: я кепска разумею па-нямецку.

## Гадзіннікі

У Швейцарыі сонца і месяц ніколі не спазняюцца. За іх дакладнасцю сочаць швейцарскія гадзіннікі. Кожны жыхар кантона Жэнева (дзе выраблена большасць швейцарскіх гадзіннікаў), кантона Во або кантона Нешатэль можа кантраляваць рух сусвету па сваім кішэнным ці наручным хранометры: на цыферблатах пазначаныя фазы Месяца і сонечныя цыклы. Тут і па сённяшні дзень лічаць, што гадзіннікі знакамітай маркі — адзіны знак багацця, які можа дазволіць сабе мужчына.

Швейцарскія гадзіншчыкі ганарацца сваімі маленькімі сакрэтамі і маленькімі адкрыццямі. Дакладна вядома, хто і калі прыдумаў першы спіральны маятнік, калі з'явіліся гадзіннікавыя сплавы. На працягу доўгіх гадоў фізіка, хімія, металургія — усё працавала на гадзіннікавую вытворчасць.

## Шчырасць

Швейцарцы — вельмі шчырыя, прыветлівыя, непасрэдныя людзі. Яны нябедныя, але не хваляцца сваім багаццем. Яны не стараюцца спадабацца — яны проста добрыя. Магчыма, гэта маё суб'ектыўнае ўражанне. Але я быў там у траўні, і тагачасны пасол Беларусі ў Швейцарыі Станіслаў Агурцоў казаў, што за ўвесь час існавання незалежнай Беларусі ніхто не аказаў нашай краіне столькі фінансавай і тэхнічнай дапамогі, як Швейцарыя. Дзякуй ім за гэта.

А ад сябе я шчыра дзякую міністэрству замежных справаў Швейцарыі, якое запрасіла нас, беларускіх журналістаў, у падарожжа. Мы былі з розных выданняў — дзяржаўных і незалежных. Але ўсе мы пагадзіліся ў адным: у жыцці так не бывае. Швейцарыя — гэта казка. А трапіць у казку, здаецца, мара кожнага чалавека з самага дзяцінства.

**Усевалад РАГОЙША**

# І тчэ, забыўшыся, рука...

**Уладзімір АРЛОЎ**

**Пра славутыя слуцкія паясы пераважная большасць беларусаў ведае, бадай, толькі дзякуючы вядомаму вершу Максіма Багдановіча і створанай на яго аснове песні. Але, як часта здараецца, паэтычная версія падзеяў істотна разыходзіцца з фактамі. Напрыклад, *«ад родных ніў, ад роднай хаты»* на залататкацкія мануфактуры бралі зусім не жанчын, а звычайна мужчын.**



*Фрагменты слуцкіх паясоў: двухбаковы (злева) і чатырохбаковы.*

Калі ж расказваць гісторыю нашых залатых паясоў па парадку, пачаць трэба з таго, што і археолагі, і этнографы сцвярджаюць: пояс здавён быў абавязковым элементам адзення жыхароў беларускіх земляў. Пра гэта сведчаць і курганныя знаходкі, і сярэднявечныя рэестры і вопісы, у якіх побач з вырабамі мясцовых майстроў нярэдка згадваюцца таксама паясы «хінскія» (кітайскія), «турэцкія» і «персія». Памеры, арнаменты, багацце колеравай гамы і матэрыялу залежалі ад прыступкі сацыяльнай лесвіцы, якую займаў іх уладальнік. На парадных партрэтах беларускай арыстакратыі XVII стагоддзя мы бачым шырокія ўзорчастыя паясы белага, блакітнага, чырвонага альбо чорнага колераў з ядвабу (шоўку) ці дарагай кашмірскай воўны, перахтканых золатам. Кошт такіх паясоў дасягаў велізарных на тыя часы грошай — 500 дукатаў.

Попыт нараджаў прапанову. Майстры паяснога ткацтва фігуруюць у спісах рамесных цэхаў, здаецца, усіх больш-менш значных беларускіх гарадоў. Менавіта гэтая даўняя мясцовая традыцыя і дала магчымасць князям Радзівілам заснаваць у 40-я гады XVIII стагоддзя ў Слуцку першую залататкацкую мануфактуру, што напачатку называлася персіярняй. Рэч у тым, што найбольш цаніліся тады ядвабныя паясы персідскай работы, і дзеля наладжвання іх вытворчасці Радзівілы запрасілі ў Слуцк некалькі турэцкіх і персідскіх майстроў, а ўзначаліў фабрыку канстанцінопальскі армянін Ян Маджарскі. У 1753 годзе ён падпісаў з гаспадарамі дамову, паводле якой абавязваўся ткаць «макаты» (дываны), «даўдыкі» (ходнікі), але найперш — *«паясы золатам і ядвабам з кветкамі, асобамі, лічбамі па зададзеным малюнку»*. Апрача гэтага, Ян Маджарскі мусіў навучыць свайму майстэрству тамтэйшага хлапчука. Працавалі на мануфактуры сяляне з прыгарадных вёсак і слуцкія мяшчане.

Фабрыка мела 24 варштаты — «паставы», на якіх за год ткалі па дзве сотні толькі «златалітых» паясоў коштам да 50 дукатаў. Ян Маджарскі прадбачліва абумовіў сабе права *«рабіць з уласных матэрыялаў і прадаваць працу свайго ўмельства»*, што дазволіла яму хутка забагацець, перарварыўшы Радзівілаў у сваіх даўжнікоў. Справы ішлі так добра, што праз колькі гадоў прадпрымальны армянін за 30.000 залатых набыў сабе каля Слуцка маёнтак.

Фінансавыя поспехі бацькі ўмацаваў Лявон Маджарскі, які атрымаў месца арандатара мануфактуры ў спадчыну. Капіталы, што раслі нібы грыбы пасля дажджу, дазволілі спрытнаму армяніну стаць камергерам пры двары апошняга вялікага князя літоўскага і караля польскага — Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Пасля Лявона фабрыкаю кіравалі ўжо беларусы — спачатку слуцкі мешчанін Каролька, а потым вучань Маджарскіх — Язэп Барсук.

Першыя вырабы слуцкай мануфактуры можна назваць простымі копіямі персідскіх узораў. Аднак вельмі хутка беларускія майстры ўзяліся творча пераасэнсоўваць усходнія матывы, уводзячы ў арнаменты кветкі родных лугоў і палёў. Найчасцей гэта былі незабудкі, гваздзікі і апетыя Багдановічам у «Слуцкіх ткачыхах» васількі-валошкі. Як лічыў выдатны знаўца беларускай старасветчыны Вацлаў Ластоўскі, ужо ў другім дзесяцігоддзі існавання мануфактуры *«ўзоры на паясах набылі свой зусім асобы стыль, пазбягаючы ламаных персідскіх ліній і з кожным разам усё больш набліжаючыся да флоры роднага краю»*.

Паясы рабіліся адна-, двух- і чатырохбаковыя, якія па ўсёй даўжыні былі падзеленыя на паловы з утокам рознага колеру. У так званых «літых» вырабах правы бок быў затканы залатой ніткаю, што цалкам закрывала ядвабную аснову. Акрамя надзіва гарманічнага арнамента і асаблівага пераліvістага бляску, слуцкія паясы былі звычайна пазначаныя вытканымі па краях славянскімі або лацінскімі надпісамі: *MADŽARSKI — SLUCK; ME FECIT SLUCIAE* («мяне зрабілі ў Слуцку»); *ВЪ ГРАДѢ СЛУЦКѢ*.

Паясы мелі значныя памеры. Звычайнымі лічыліся даўжыня 2—2,5 метра і шырыня блізу 30 см. Аднак вядомыя вырабы, што дасягалі 4,9 м удоўжкі і 41 см. ушыркі. Улюбёнымі колерамі слуцкіх майстроў былі малінавы, блакітны, зялёны, кармінава-чырвоны, белы і чорны. Плюс, натуральна, золата і срэбра.

Папулярнасць прадукцыі слуцкай мануфактуры спрыяла ўзнікненню аналагічных прадпрыемстваў. У ваколіцах Горадні дзве такія фабрыкі заснаваў Антон Тызенгаўз, які запрасіў на пасаду тэхнічнага дырэктара француза Бэкю. Князі Агінскія адчынілі сваю «паясарню» на Падляшшы, князі Сапегі — у Ружанах...

Высокія мастацкія вартасці слуцкіх паясоў прынеслі ім еўрапейскую вядомасць, што не магло прывесці да імітацыяў і падробак. Французскі ткач Салімонд родам з-пад Ліёна ў 1782 годзе распачаў вытворчасць «слуцкіх» паясоў пад Варшавай. Прыкладна ў той самы час дзейнічаюць майстры-самазванцы ў Кракаве і Гданьску, а нейкі Якуб Пятровіч (найверагодней, беларус) стварае мануфактуру ў Канстанцінопалі. Спробы выпуску «слуцкіх» паясоў зафіксаваныя нават у Парыжы. Аднак, на думку мастацтвазнаўцаў, ніводная з гэтых мануфактураў не здолела дацягнуцца да ўзроўню арыгіналу ні дасканаласцю ткацтва, ні багаццем і вытанчанасцю малюнкаў.

Пасля захопу Беларусі расійскай імперыяй мануфактуры-«паясарні» паступова прыходзяць у заняпад. Галоўнай прычынай гэтага сталася забарона насіць нацыянальныя шляхецкія строі, якія ў іх урачыстым варыянце немагчыма было ўявіць без багатага пояса. Праўда, традыцыйнымі пакупнікамі заставаліся касцёлы і цэрквы, дзе слуцкія паясы выкарыстоўваліся ў адзенні святароў, але агульны попыт непапраўна скараціўся.

Сёння слуцкія шэдэўры знаходзяцца ў шмат якіх еўрапейскіх музеях. Мне давялося любавацца ўзорамі беларускага залататкацтва ў лонданскім Беларускім музеі імя Скарыны. Вялікая калекцыя вырабаў слуцкіх майстроў захоўваецца ў Маскве, куды яна была вывезеная ў канцы 20-х гадоў XX стагоддзя.

Майстэрства беларускіх ткачоў справакавала цэлы шэраг спробаў прыўлашчыць іхнія дасягненні. Толькі два прыклады: у Смаленскім абласным гістарычным музеі слуцкія паясы названыя «изделиями русских ремесленников», а ў Гістарычна-этнаграфічным музеі Літвы яны фігуруюць як творы рамеснікаў літоўскіх. Варта дадаць, што колькасць ацалелых да нашых дзён паясоў істотна скарацілі аматары наживы, якія палілі іх, вытопліваючы з найбольш каштоўных экземпляраў да двух фунтаў срэбра і золата.

Завяршыць гэтыя нататкі хацелася б мроямі пра тое, што калі-небудзь збор непаўторных слуцкіх паясоў можна будзе ўбачыць не толькі за Ла-Маншам, у Лондане, ці ў расійскай сталіцы, але і на зямлі, якая натхняла беларускіх ткачоў на стварэнне сапраўдных шэдэўраў.

## Даты і лёсы

*31 ліпеня*

**1655.** Маскоўскія войскі захапілі Вільню, а неўзабаве — амаль усю тэрыторыю ВКЛ. Гэта прымусіла частку магнатаў падпісаць у жніўні дагавор пра пераход Вялікага Княства пад пратэктарат Швецыі, каб тая дапамагла вызваліць землі ад акупантаў.

**1940.** Нарада вышэйшага палітычнага і ваеннага кіраўніцтва Германіі прыняла рашэнне пра падрыхтоўку вайны супраць СССР.

*1 жніўня*

**1778.** У Гамбургу адчынілася першая ў свеце ашчадная каса.

**1793.** У Францыі была ўпершыню ўведзеная метрычная сістэма мераў і вагаў (метр, літр, кілаграм і г.д.), распаўсюджаная цяпер ва ўсёй кантынентальнай Еўропе.

**1833.** У англійскіх калоніях было скасаванае рабства (у французскіх яно было забароненае яшчэ ў **1794** г., а ў ЗША — толькі ў **1865** г.).

**1913.** Памерла выбітная ўкраінская паэтка і дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху Леся Украінка. Дарэчы, яна двойчы прыязджала ў Мінск да сяброў — мясцовых сацыял-дэмакратаў.

**1936.** У Алжыры нарадзіўся французскі куцюр'е Іў Сен-Ларан. Ужо ў 17 гадоў ён пачаў супрацоўнічаць з Крысціянам Дыёрам і ўзначаліў ягоны Дом мод праз пасля смерці Дыёра ў 1957 г., а праз пяць гадоў заснаваў уласны.

**1940.** Толькі за першы месяц дзеяння ўказа прэзідыума ВС СССР пра ўзмацненне працоўнай дысцыпліны да судовай адказнасці ў Беларусі былі прыцягнутыя 7,3 тыс. чалавек. З іх да пазбаўлення волі былі асуджаныя за прагулы амаль 4 тыс. чалавек.

**1997.** У Афінах пачаўся VI чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы. Беларуская каманда па колькасці набраных ачкоў трапіла ў першую дзесятку сярод 200 краінаў.

*2 жніўня*

«Прыйдзе Ілля — наробіць гнілля», — кажуць у народзе. Бог Пярун, якому пакланяліся старажытныя славяне, пазней пачаў атаясамляцца з Ільёй-прарокам. У пана маланак і навальніцаў прасілі добрага надвор'я, неабходнага для збору ўраджаю.

**1941.** У Вільні акупацыйныя ўлады забаранілі габрэям карыстацца ўсімі відамі грамадскага транспарту (у тым ліку таксі), сядзець на лавах у парках, хадзіць па тратуарах. Прыкладна такія ж «правілы вулічнага руху» для габрэяў дзейнічалі і ў іншых гарадах, што апыняліся пад акупацыяй.

**1972.** Садат і Кадафі падпісалі дамову пра аб'яднанне Егіпта і Лівіі праз год у адзіную дзяржаву. Перашкодзіла «інтэграцыі братніх народаў», як заўсёды, нежаданне дыктатараў дзяліцца ўладай.

*3 жніўня*

**1778.** У Мілане адчыніўся знакаміты оперны тэатр *La Scala*. Дарэчы, у гэты ж дзень у **1747 г.** у Нясвіжскім тэатры адбылася прэм'ера першай оперы Уршулі Радзівіл «Каханне — суддзя неаб'ектыўны».

**1940.** Вярхоўны Савет адобрыў закон аб прыняцці Літоўскай ССР у склад Савецкага Саюза. Літве перадавалася 2.000 кв.км тэрыторыі БССР — Свянцяны (Швянчоніс), Салечнікі (Шальчынінкай), Друскенікі (Друскенінкай) і некаторыя іншыя памежныя землі.

**1943.** Пачалася «Рэйкавая вайна» — усебеларуская акцыя савецкіх партызанаў.

**1996.** На востраве Памяці ля Траецкага прадмесця адчынілася капліца-помнік беларускім вайскоўцам, што загінулі ў Афганістане. Іх было амаль 800. Імёны ўсіх пералічаныя на сценах капліцы.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

*ПРЭМ'ЕРА*

# Музей мінскай шляхты

У панядзелак, 3 жніўня, у новы сталічны музей — Дом Ваньковіча — прыйдзе першы наведвальнік. Гэта будзе міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. Загадчыца музея Наталля Сычова, аднак, падчас сустрэчы з журналістамі выказала сумненні, што Дом Ваньковіча адразу ж пачне прымаць экскурсантаў.

Музей вядомага беларускага жывапісца пачатку XIX стагоддзя Валенція Ваньковіча размясціўся ў самым цэнтры Мінска, на вул.Інтэрнацыянальнай. У невялікім прыгожым доме з калонамі непадалёк ад берага Свіслачы В.Ваньковіч пражыў больш за дзесяць гадоў — з 1828 па 1841. На жаль, дом не захаваў практычна ніякай памяці пра славутага гаспадара, у савецкія часы ён быў капітальна перабудаваны, і тут размясцілі камунальныя кватэры. За апошнія 14 гадоў (рашэнне аб стварэнні музея было прынятае яшчэ ў 1984 г.) дом Ваньковіча перажыў грунтоўную перапланіроўку і рэстаўрацыю. Дом Ваньковіча будзе яшчэ адной філіяй Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Як распавяла загадчыца Наталля Сычова, Дом Ваньковіча пакуль небагаты на сапраўдныя рэчы і творы мастака. Карціны і малюнкі Валенція Ваньковіча захоўваюцца галоўным чынам у музеях Польшчы. Усяго толькі тры экспанаты новага музея маюць пэўнае дачыненне да сямейства Ваньковічаў. У экспазіцыі будзе змешчаны мужчынскі партрэт — спецыялісты не выключаюць, што яго напісаў гаспадар дома. (На партрэце — адзін з роду Манюшкаў, якія, таксама як і Ваньковічы, былі мінскімі шляхціцамі.) У Нацыянальнай бібліятэцы ўдалося адшукаць кнігу з аўтографам мастаковага сваяка Эдварда Ваньковіча. Зойме пачэснае месца ў музейнай зале і невялікая скульптура «Амур і Псіхея», знойдзеная ў двары дома падчас раскопак.



*Сядзіба Ваньковічаў у Мінску. З гравюры мастака Віктара Сташчанюка.*



*Аўтапартрэт Валенція Ваньковіча. Малюнак знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.*

Трэба спадзявацца, што з часам Дом Ваньковіча папоўніцца цікавымі экспанатамі, непасрэдна звязанымі з імем мастака. Пакуль жа музей цікавы ў першую чаргу старадаўнімі рэчамі — тут можна будзе пабачыць мэблю, кнігі і карціны пачатку XIX стагоддзя. Як кажа Н.Сычова, музейныя супрацоўнікі мелі на мэце стварыць шырокую карціну побыту і культуры мінскай шляхты той эпохі.

Адкрыццё музея было запланаванае на пачатак жніўня, і супрацоўнікі сцвярджаюць, што Дом Ваньковіча цалкам гатовы для наведвання. Аднак, на думку Н.Сычовай, гэтаму пакуль што перашкаджаюць інтэнсіўныя рамонтна-будаўнічыя работы ў суседніх будынках — загадчыца музея баіцца, што цагляны пыл і грукат будаўнічай тэхнікі могуць сапсаваць экскурсантам першыя ўражанні.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

